# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 10 (1608) ГОД XXXII БЕЛАСТОК 8 САКАВІКА 1987 г. ЦАНА 12 зл.




Лена Тапалянская (справа) і Ленка Добаш над кулінарнымі „рэцэптамі" Якуба Коласа ў „Новай зямлі".

## ДЗВЕ ЛЕНЫ — ДЗВЕ НАСТАЎНІЦЫ РОДНАЙ МОВЫ

Першая — Галена Тапалянская (блізкія называюць яе проста — Галя), настаўніца беларускай мовы ў школе ў Трасцяніцы, нарадзілася ў суседняй Нарве. Яе настаўніцтва працягваецца ўжо 27 гадоў, а самой 21 лютага споўнілася 50 гадоў. Другая — Галена Добаш (яе называюць — Ленка), настаўніца беларускай мовы ў Залуках, нарадзілася ў Трасцяніцы. Яе настаўніцкі стаж — першы год, а 6 студзеня ёй споўнілася 26 гадоў. Гэтыя дзве жанчыны сустрэліся першы раз амаль дваццаць гадоў таму назад у школе ў Трасцяніцы. Тапалянская была настаўніцай Ленкі (тады яшчэ Радзіванюк) па беларускай мове і пасеяла ў сэрцы малой дзяўчынкі ніколі непагаслую любоў да роднага, беларускага. Галя Тапалянская за больш чым палову свайго жыцця выхавала ў пачатковай школе многа свядомых, адданых беларускай справе маладых людзей. За гэты каштоўны дар і сёння складаем ёй самы нізкі паклон.

Галена Тапалянская расказвае, што Ленка Радзіванюк была ў школе выдатніцай. Асабліва ж любіла беларускую мову і пісанне апавяданняў. Нават тады, на зададзеную працу пісала багатыя вобразамі і слоўніцтвам апавяданні, якія дагэтуль дбайна захоўваюцца ў архіве настаўніцы. Клас, у якім была Лена, увогуле быў здольным, добрым і моцным класам. І разам з Ленкай Радзіванюк на беларускую філалогію ў Варшаўскі універсітэт паступіла з таго ж трасцяніцкага класа яшчэ і Галіна Кулеша. Г. Тапалянская заўсёды пільна сачыла за лёсам сваіх вучняў, асабліва ж тых, хто пайшоў дарогай, якую і яна выбрала: быць настаўніцай роднай мовы. Але і выхаванкі яе не забываюць. У тым жа архіве Галі вось адкрытка па-беларуску ад Ленкі Радзіванюк: „Асталася, ты ў маім сэрцы назаўсёды. Ты адкрыла мне дарогу ў свет жыцця і абавязкаў і толькі ты жывеш у маіх марах і снах..."

Так склалася, што Лена Радзіванюк вучылася ў ліцэі ў Беластоку, у класе з пашыраным навучаннем рускай мовы. І рускай мовай яна авалодала вельмі добра. Настаўнікі і школьны візітатар кіравалі яе на рускую філалогію. Калі ж яна заявіла, што пойдзе на беларускую філалогію, тыя аж за голаў узяліся. „Я сказала ім, што так мяне наставіла пані Тапалянская, што я мушу ісці на беларускую філалогію і ўсё" — успамінае цяпер Лена Добаш.

Апынуўшыся ў Варшаве, як і многія, адчула яна патрэбу кантактаў з іншымі выхадцамі з Беласточчыны. „Патрэбу, — як сказала, — гуртавання ўсіх студэнтаў беларускай нацыянальнасці, каб штосьці рабіць". Быў тады такі час, што гэтакая патрэба была пільная.

Ужо з другога курса яна вельмі актыўна ўключаецца ў беларускую дзейнасць, найперш у беларускім клубе на Сенатарскай, а потым у беларускім аб'яднанні студэнтаў і ўрэшце ў Радзе культуры студэнтаў беларускай нацыянальнасці пры Аб'яднанні польскіх студэнтаў (ЗСП). Рада культуры беларускіх студэнтаў дзейнічае і дагэтуль.

Ленка валодае арганізатарскімі здольнасцямі, якія вельмі ж спатрэбіліся ў розных імпрэзах беларускіх студэнтаў у Варшаве, з імі яны хутка пачалі прысутнічаць у шматлікіх студэнцкіх клубах па ўсёй Варшаве. Адначасова Лена рыхтавалася стаць настаўніцай беларускай мовы ў вёсцы. „Я заўсёды хацела вучыць беларускай мове", — заяўляе яна коратка.

І слова здзейснілася. Яна цяпер настаўніцай роднай мовы ў вёсцы Залукі, што ў гміне Гарадок. І адкрывае малым дзеткам так, як некалі ёй

(Працяг на стар. 7)

* * *

Нібы пуховаю хусцінай
Вандроўніка сярод снягоў —
Пяшчотай ахінаю сына,
Дыханне слухаю яго.

Як спіць ён бесклапотна ўночы..
Яму праз месяц, два ці пяць
Армейскаю дарогай крочыць,
Прысягу першую прымаць.

Над тварам гэтым, светла-мілым,
Бялюткай пасмай валасоў
Другія гаспадарацъ сілы
І час адточвае лязо!

Гляджу задумліва-гаротна
На край адвечных курганоў.
Калі ж для хат і ніваў родных
Мы станем гадаваць сыноў?

Нас не паставіць на калені —
Хай рвуцца зблізку ці здаля.
...Што майго сына пакаленню
Рыхтуе гэты раз Зямля?

**Вольга Іпатава**

* * *

У зімні дзень, калі снягі
Сыпалі на ўпалую лістоту,
Прыйшоў ты ў дом зусім другі,
У адзіноту, адзіноту.
Быў позірк жорсткі, як лязо
Апорхлых траў, здаўна памерлых,
Ты быў між зор. Ты згас між зор...
І шлях пакутны мой між церняў...
Быў зімны дзень, апошні дзень,
Калі сплыла любоў далёка.
І засталіся між людзей
Два нашых лёсы адзінокіх.

**Людміла Забалоцкая**

* * *

Пра рознае, ды на паўгуках,
бы бедакі пра ананас,
і сэрцам чуць, як стынуць рукі
ад непазбежнага між нас.

Я не баюся таямніцы,
якая звязвае ўдвая...
Не дай жа потым усумніцца,
што я каханая твая.

Не выпадковаю гадзінай,
калі сам д'ябал нам радня..
Узведзенай у ранг адзінай
хачу запальваць неба дня.

**Раіса Баравікова**

* * *

Агонь і меч зямлю лютуе.
Пасцель ці мякка вою слала?
Народ назваў жанчыну тую
Высокім імем —
Гарыслава!
Незвязваны ранак дымны.
Крык жураўліны несціханы.
Жаночы боль —
Ён неабдымны:
Радзіма,
Помста,
Смерць,
Каханы...

**Ала Канапелька**

# „Падвойны профіль"

## РАЗМОВА З МІКАЛАЕМ ДАВІДЗЮКОМ

**„Ніва":** Нашыя чытачы сустракаліся ўжо з вамі ў „Ніве". Раз гэта было інтэрв'ю С. Яновіча, іншы — вашыя малюнкі на старонках „Белавежы" ці вашы літаратурныя творы.

**Мікалай Давідзюк:** Гэта былі старыя тэксты, яшчэ са студэнцкіх часоў. Я іх занава перарэдагаваў, і гэта адчуваецца... Пакуль што новага не пішу. Звычайна — няма ў мяне часу. Вядома — дзве сарокі лапаць за хвост!

**Н.":** Вы аднак пішыце. Вельмі шкада было б, каб вашыя думкі спелага чалавека і мастака, напісаныя ў добрай беларускай мове не сталі вядомымі чытачам.

**М. Д.:** Не ведаю, ці будуць яны цікавыя для шырокай публікі. „Ніва" стаіць перад дылемай — прабуе спалучыць і патрэбы селяніна — а ёсць жа таксама і інтэлігенцыя, якую некаторыя завуць жартам „беларусападобнай". Напэўна, калі што напішу, прышлю абавязкова. Гэта ўжо не будуць творы як „Маналог" ці „Адэпт", але больш паэтычная проза.

**„Н":** Добрым акцэнтам на літаратурнай старонцы „Нівы" былі вашы малюнкі.

**М. Д.:** Я летам перадаў новую порцыю здымкаў маіх малюнкаў. Калі чытачам спадабаюцца, вельмі добра.

**„Н":** Якія пачуцці ў мастака пасля намалявання апошняй карціны?

**М. Д.:** Ну, энтузіязм, пераважна. Я ўжо настолькі вопытны, што да гэтага энтузіязму падыходжу з падазрэннем. І чакаю. Наколькі той энтузіязм апраўдаецца. Пару дзён... І вельмі часта — не апраўдваецца. Здараецца, што гэта ўвогуле памылка. І тады пачынаецца маляванне ўжо закончанага ад пачатку або амаль ад пачатку. Яшчэ раз і яшчэ раз. Так можна даволі доўга маляваць, некалькі месяцаў. Рэдка здараецца, каб вобраз выйшаў адразу, або амаль што адразу. Не за першым пасяджэннем — гэта ніколі не выходзіць, бо гэта і тэхнічна нават немагчыма. Я маю спецыяльную тэхніку, не alla prima, гэта значыць так, што малюеш непасрэдна на палатне і гэтак яно застаецца, а я раблю класічнай тэхнікай, як у барока — падмалёўка найперш, кампазіцыя, танацыі і потым прыходзіць наступная праслойка. Мінімум два пасяджэнні, а то пераважна трычатыры, а бывае і так, што работа адцягваецца і часта здараецца, што рэзультат не вельмі далёка.

**„Н.":** Што самае важнае ў карціне?

**М. Д.:** Я думаю, што сугучнасць таго, што ёсць у карціне з маім адчуваннем. Ёсць такое ў музыцы, як слых музычны, і такі слых і ў жывапісе таксама ёсць. Я кіруюся гэтым, і таму для мяне найважнейшая справа, каб была настроенасць, шырэй, і ўнутранае перакананне, што не наілгаў. Бо часам усё выглядае быццам бы добра і нават эфектоўна. Гэта вельмі небяспечная справа, а ўнутры гучыць: аднак гэта няпраўда. І калі ёсць такі сігнал, проста — такая работа не закончана. Так што важнае — суб'ектыўная праўдзівасць, мая мастацкая праўда!

**„Н.":** А якая рыса характару найбольш для вас характэрная як для мастака?



**М. Давідзюк, „Куколь", 1985 г., памеры 73x54 см. Фота Р. Кухцяк.**

**М. Д.:** Думаю, што самае важнае гэта — пэўная дэтэрмінацыя, што нельга затрымацца ў палове дарогі, што трэба прабаваць сягнуць як найдалей, што нельга спыніцца. Пэўная паслядоўнасць. Гэта важнае не толькі для мастакоў.

**„Н.":** Як вашыя бацькі бачаць вашае маляванне, вашыя дасягненні?

**М. Д.:** Даўно я не меў аказіі чуць іх меркаванні, бо пазбягаю таго. Ведаю, што гэта проста мае „багамазы". Ад пачатку — „багамазы", і думаю, што ацэнка не змянілася.

**„Н.":** Як успамінаеце Гайнаўку, беларускі ліцэй? Ці ўжо там заўважылі ваш характар, ваш талент?

**М. Д.:** Я меў многа шчасця ў тым, што сустрэў у жыцці Анатоля Корзуна і ён быў маім настаўнікам. Калі б я яго не сустрэў, думаю, мала праўдападобна было б, што я трапіў бы ў мастацкую школу і ўвогуле стаў мастаком. З малых лет я многа маляваў, але якраз Корзун усё ўва мне „раскруціў".

**„Н.":** Якія „тэмы" вашых карцін? Іх назвы: „Парэзаны", „Падвойны профіль", „Белая маска" „Куколь", „Кругакуль", „Ножніцы", „Бандзола", „Лакарыца" „Зашпілены", „Спрафіляваны" „Шэрая маска", „Сак-лак", „Развілены", „Прарок з асістэнтамі"...

**М. Д.:** Я не называў бы гэтага тэмамі. Ёсць адна аўтатэма.

**„Н.":** Гэтыя „іконы" з „вачымадушамі" трэба паглядзець. У Беластоку якраз ваша выстаўка. У вас было многа выставак у Польшчы і за граніцай, супольных з іншымі мастакамі і індывідуальных...

**М.Д.:** Раней я маляваў вялікія абразы, цяпер малыя, прасцейшыя, больш вясёлыя, не такія панурыя і грозныя. Думаю, што буду яшчэ маляваць. Ёсць яшчэ ў мяне матывацыі, яшчэ я „не вымаляваўся" да канца, так што тых „багамазаў", пэўна, яшчэ крыху будзе.

**„Н.":** Дзякуем за размову і чакаем новых сустрэч на выстаўках і старонках „Нівы".

**Гутарыла**
**Міра Лукша**

---

ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ

# КАХАННЕ І ЖЫЦЦЁ

Ёсць што ўспамінаць і хочацца ўспамінаць. Мой Раман быў добрым мужам. Выйшла я за яго па сваёй волі і ахвоце, але супроць бацькоў ды сясцёр. Так, так, нават каханне калісьці перамагала ўсё.

Я з багатага роду. Мы мелі парабка і дзеўку. Багацейшых за нас не было. І прыгажэйшай хаты за нашую таксама ніхто не меў. Раман парабкам нашым быў. Адзін год пабыў ён у нас і пайшоў на работу ў горадзе. Я пакахала яго, але ён не звяртаў аніякае ўвагі на мяне. Адносіўся да мяне, як да дачкі багатыра. Ідучы ў горад, нават не развітаўся са мною. Тата заплаціў яму, як трэба было, як дамовіліся былі, і ён пайшоў.

Калі не бачыла яго, дык думала, што выкінула я яго са свайго сэрца. „Якое жыццё чакае мяне? — раздумвала я. — Аддадуць мяне замуж за старога дзеда, бо багаты ён будзе. Божа, агіда якая!" — і злосць брала мяне, і роспач, і крыўда на ўвесь свет.

Летам пайшла я на фэст, на Пятра і Паўла. Бачу там стаіць мой Раман, але нейкі такі іншы, яшчэ больш прыгожы, акуратны. Сэрца забілася ў грудзях. Я гляджу на Рамана, як заварожаная, і іду проста да яго. І ён угледзеў мяне, і пачаў ісці да мяне. Мы прывіталіся, загаварылі.

— Чаму ты не жэнішся? — пацікавілася я.

— Калі, бачыш, дзяўчаты не хочуць мяне, — усміхнуўся ён.

— Што ты кажаш, такога прыгожага хлопца кожная захоча.

— Ну, а ты — захацела б? — спаважна запытаў ён мяне.

— Каб ты толькі захацеў, — адказала я, уся ўдзеравянеўшы ад нейкай салодкай трывогі.

— Не жартуеш?

— Не жартую, Рамане.

Пайшлі мы ў наш дом. А там гасцей святочных поўна. За сталамі парассядаліся. І мы прывітаўшыся, селі абое за стол.

— А ты чаго тут? — скрывіўся на Рамана мой бацька.

— Я зяцем вашым буду, — адказаў Раман.

— Ты?! — здзівілася мая маці.

Госці засмяяліся, вядома, з Рамана.

— І што ты, Жэня, скажаш на гэта? — запытаў у мяне бацька.

— Я пайду за Рамана, — адказала я горача, амаль выкрыкнуўшы.

— Каго гэта я выгадавала! — пачала галасіць маці. — За галяка замуж ісці хоча... Лепей было б, каб ты памерла, чым мы цераз цябе мелі з басотаю вязацца!

Зрабілася страшна, а ў настаўшай цішы чулася паўпрытомная ад гневу лаянка бацькі: „З парабкам звязалася... Як сука якая!"

Раман не звяртаў на гэта ўвагі. Мы глядзелі адно на другое, шчасліва ўсміхаліся.

Вяселле адгулялі ўвосень. Паклала я ў клункі тое, што мне далі, як з ласкі, мамка з таткам, і гайда ў горад, з Раманам. Жылі мы там у малой хацінцы; Раман хадзіў на работу ў тартак, а я зарабляла ў навакольных багатых гаспадароў. Неяк вязалі мы канец з канцом. Мелі двое дзетак, хлопчыкаў. Мала-памалу ўзяліся дом свой ставіць. А тут вайна пачалася. Рамана на фронт пагналі, самая я з дзяцьмі засталася. Аднаго хлопчыка трымаю адной рукою, другога — другою.

Выйшла я аднаго разу так з імі на вуліцу, аж немец п'яны аднекуль з'явіўся. Убачыўшы мяне з дзецьмі, выняў пісталет і застрэліў меншага хлопчыка Міколку. Божа, я думала, што ашалею!

Калі Раман вярнуўся з вайны, мы пачалі жыць па-ранейшаму. Больш дзяцей не мелі, рос нам адзіны сын, Андрэйка. Дакончылі дом, кватарантаў узялі, працавалі, рук не пакладаючы, і жылося нам штораз лепей. З часам бацькі мае і сёстры сталі адносіцца да нас з пашанай. Раман мой быў без радзіны, сіратою.

Андрэйка вырас на мужчыну, пайшоў на работу, ажаніўся, і мы, я з Раманам, засталіся самі

(Працяг на стар. 11)

# У РАМКАХ ДРУЖБЫ

Рыгора Баніфацюка, галоўнага бухгалтара Беластоцкага баваўнянага камбіната „Фасты“, выпісалі з бальніцы, а вока не пераставала балець. Аперацыю на воку рабіў яму вядомы лекар, дацэнт Анджэй Станкевіч, кіраўнік клінікі акулістыкі Медыцынскай акадэміі ў Беластоку. Пасля аперацыі прымяняліся ўсе неабходныя лекі, аднак належнага папраўнку не было. Вока не гоілася.

Даведаўся ён, што ў Гродне ёсць высокага рангу спецыяліст вачных хвароб і пачаў рабіць захады, каб паехаць да яго на лячэнне. Пры выдатнай дапамозе ВП Таварыства польска-савецкай дружбы, у якім ён актыўна працуе, і садзейнічанні беластоцкіх і гродзенскіх партыйных улад у рамках прыгранічнага супрацоўніцтва Р. Баніфацюк неўзабаве апынуўся ў Гродзенскай бальніцы вачных хвароб, у прафесара Уладзіміра Трафімавіча Парамея.

Ужо першы кантакт лекара з хворым быў вельмі сардэчны. Прафесар правёў дакладнае абследаванне вока і сцвердзіў, што аперацыя зроблена была правільна і добра. А тое, што вока не гоіцца, прычына ў другой хваробе, таксаплазме.

Пачалося інтэнсіўнае лячэнне. Польскага пацыента акружылі чулай апекай. У сяброўскіх гутарках ён ахвотна расказваў, выясняў многія праблемы з жыцця Польшчы. А веды ў яго грунтоўныя, ён жа грамадскі лектар ТППР і Гарадскога камітэта ПАРП. Апрача таго, Р. Баніфацюк патрапіць зацікавіць тым, аб чым гаворыць.

Прыемна было яму і тое, што наведвалі яго прадстаўнікі Гродзенскага прадзільна-нітачнага камбіната, з якім „Фасты“ ўжо здаўна супрацоўнічаюць і абменьваюцца вопытам.

Уступалі болі вока; наступаў папраўнак. Былі задаволены і сам прафесар і працуючы з ім медыцынскі персанал.

Мінула шэсць тыдняў і Р. Баніфацюк вярнуўся дамоў. Сям'я цешылася. Пайшоў ён паказацца дацэнту А. Станкевічу. І вось тады нарадзілася думка запрасіць прафесара У. Т. Парамея ў Беласток дзеля абмену вопытам у лячэнні вачных хвароб. Дац. А. Станкевіч звярнуўся да рэктара Беластоцкай медыцынскай акадэміі праф. Е. Лэбкоўскага і 19 студзеня г.г. праф. У. Т. Парамей прыехаў у Беласток. Ён сем дзён быў у Польшчы. З ім наладжаны былі спатканні ў Медыцынскай акадэміі на спецыялістычныя тэмы лячэння вачных хвароб, вельмі карысныя для Беластоцкай клінікі акулістыкі.

Гродзенскі госць меў магчымасць даведацца аб дасягненнях клінікі і пераканацца, што яна мае добрае сучаснае аснашчэнне і варункі працы. У ёй толькі 45 ложкаў, але на працягу года яна выконвае больш за тысячу дзвесце рознага роду вачных аперацый.

Сустрэчы з рэктарам праф. Е. Лэбкоўскім і дац. А. Станкевічам і іншымі навуковымі работнікамі, перш за ўсё з клінікі акулістыкі, азнаямленне госцем з працай і дзейнасцю Гродзенскай клінікі вачных хвароб — уся багатая праграма пабыўкі будуць спрыяць цяснейшаму супрацоўніцтву абедзвюх медыцынскіх устаноў.

Праз усе дні пабыўкі праф. У. Т. Парамея ў Польшчы апекаваўся ім Р. Баніфацюк. Ён яго спатыкаў у Беластоку, спадарожнічаў у выездах у іншыя мясцовасці, сардэчна прыймаў у сваёй хаце.

*

Праф. У. Т. Парамей — ураджэнец Гусяціна, Хмяльніцкай вобласці, выпускнік Львоўскага медыцынскага інстытута, ветэран Айчыннай вайны, між іншым, вызваляў ён Вармію і Мазуры, дэмабілізаваўся ў Ольштыне ў 1945 годзе. Узнагароджаны ордэнамі Чырвонай зоркі і Вялікай Айчыннай вайны I ступені, а таксама шматлікімі медалямі за баявыя і грамадска-прафесіянальныя заслугі. У тым і Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР. На працягу многіх гадоў быў ён старшынёю абласнога праўлення Таварыства ведаў, а цяпер з'яўляецца членам яго Прэзідыума. У Гродне яму прысвоілі званне прафесара, доктара медыцынскіх навук. Ужо 25 год працуе ён у Гродзенскім медыцынскім інстытуце, тут арганізаваў і ўзначаліў клініку вачных хвароб. На яго рахунку шэраг навуковых работ.

**Міхась Хмялеўскі**

Фота аўтара



Праф. У. Т. Парамей (злева) і Р. Баніфацюк.

валася амаль цэлую ноч. Канчаткова разбойнік забраў у бабулі бумажнік, у якім знаходзілася 600 зл. Бабулю ледзь адратавалі. Усё гэта здарылася ў адной вёсцы на Сакольшчыне. Варта яшчэ ведаць, што бацька гэтага злачынцы, які паласаваўся на бабульчына дабро, мае 22-гектаровую гаспадарку, а ён сам вывучыўся на механізатара і мог бы жыць прыпяваючы, калі б яму захацелася працаваць. За сваё злачынства давядзецца яму заплаціць 9 гадамі турэмнага зняволення і грашовым пакараннем — 400 тысяч зл.

Можна было б доўга апісваць падобныя зладзейскія або бандыцкія ўчынкі. Вось двух сяброў з Кузніцы вымушаны развітацца са свабодай аж на 12 гадзікаў, ды яшчэ заплаціць або адпрацаваць 4 мільёны штрафу за тое, што спакусіліся яны на дзяржаўнае дабро вартасцю ў 4 мільёны 388 тысяч зл.

У Гайнаўцы, у навагоднюю ноч, вярталіся дамоў двух падхмеленых удзельнікаў карнавальнага балю. Насустрач ім трапіліся такія ж вясёлыя кавалеры. Адны другім не хацелі саступіць з дарогі. Завязалася звычайная бойка. У руках аднаго з іх бліснуў нож. Гэтым нажом джгануў ён у шыю свайму праціўніку і перарэзаў жылу. Наступіў раптоўны крывацёк, больш унутраны, чымсці вонкавы. Пакуль паспела хуткая дапамога, ахвяра п'янай бойкі ўжо амаль спруцянела на марозе.

У мінулым годзе ў Беластоцкім ваяводстве здарылася 11 забойстваў, і напалову паменшылася колькасць пакаранняў за самагонку, але затое аж на 40 прац. узрасла колькасць спраў па антыалкагольнаму закону, значыць за піццё гарэлкі ў недазволены час і там, дзе недазволена. 363 разы п'яную кампанію ліквідавала міліцыя. Пад параграф антыалкагольнага закона трапіла 29 загадчыкаў і брыгадзіраў рабочых калектываў. Даказана ім, што на рабоце пілі яны, разам з падуладнымі або дазвалялі ім піць.

Хто дапускаецца рознага роду злачынстваў? З пракурорскай статыстыкі вынікае, што ў мінулым годзе пад міліцэйскім падазрэннем у злачынстве ў межах Беластоцкага ваяводства знаходзілася 5700 чалавек.

— Звыш 3500 чалавек з гэтага ліку злачынцаў, — кажа пракурор М. Лахоўскі, — гэта, я б сказаў, зусім нармальныя людзі, якія бяздумна, проста „пры нагодзе“, увайшлі на шлях злачыннасці. Адначасова выявілі мы каля 500 чалавек, якіх можна назваць грамадскімі паразітамі, значыць, гэта людзі без пастаяннага занятку.

Асноўная колькасць злачынцаў выводзіцца з гарадоў. Гарады па традыцыі з'яўляюцца рассаднікамі бясправўя. Толькі 338 злачынцаў у мінулым годзе выводзілася з вёскі. Насцярожвае і непакоіць факт, што на злачынны шлях даволі часта ўступаюць вучні. 668 зладзеяў і разбойнікаў са школьнымі білетамі выявілі міліцыянеры ў мінулым годзе. Злачынствам намагаліся падмацаваць свае пенсіі 287 ветэранаў працы.

**Судамір Параграфчык**




**(Працяг са стар. 4)**

Таму сябру Я. Чыквіну няма такіх вялікіх падстаў абзываць па-рознаму мяне, рэдактара „Календара“, заламваць рукі ды лямантаваць над, нібыта, страшэнным злачынствам.

Пры тым вымушаны я прыгадаць, што мой вопыт у рэдагаванні падручнікаў беларускай мовы, календароў, зборнікаў твораў „белавежцаў“ не такі ўжо і малы і зусім не ўступае літаратурнаму вопыту Я. Чыквіна, які ён гэтак моцна падкрэслівае. А памылка ці недагляд можа здарыцца кожнаму, не гледзячы на яго славу і вопыт. І я, рэдактар, і карэктар „Календара“ шчыра шкадуем, што гэта сталася з вершам Я. Чыквіна, і перапрашаем яго. Аднак я абавязаны чытачам высніць, што наш паэт зусім не праяўляў такога дбайнага клопату пра лёс свайго верша падчас яго друку, як ён тут піша, бо нават не пацікавіўся зрабіць яго аўтарскую карэктуру, хаця часценька мяне сустракаў у часе працы над „Календаром“.

Затое чытачы „Беларускага календара на 1987 г.“, а ў іх ліку таксама і я, удзячны сябру Я. Чыквіну за сённяшняе вытлумачэнне сэнсу і накіраванасці свайго твора. Таму, што як ні прыстаўляць да яго выраз „на чужыне“, змест верша і яго ідэя надта ж невыразныя і далека не адназначныя. Цяпер жа, дзякуючы аўтарскаму вытлумачэнню твора, ён стаў больш даступным і зразумелым, выклікае меней сумненняў. Шкада толькі, што гэтае вытлумачэнне паэт зрабіў цяпер, а не пры вершы, хаця б у тым жа эпіграфе. Але і за гэта — дзякуй.

**М. Гайдук**




## НЯХРЫШЧАНАЯ ДУША

Аднае ночы ўвосень валокся са станцыі дадому наш чалавек, вядомы сваімі забабонамі. Калі дайшоў ён да мастка, пачуў аднекуль з цемначы ціхі плач. Чалавек стаў, як укопаны, перахрысціўся пужліва і ўзяўся слухаць. „Гэта, відаць, няхрышчаная душа так плача, — падумаў ён. — Дзеўкі цяперашнія родзяць няшлюбных дзяцей, душаць іх у таямніцы, і потым няхрышчаныя душы па свеце швэндаюцца ад іх...“

— Чаго няхрышчаная душа хоча? — крыкнуў чалавек туды, адкуль чуў ціхі плач. — Калі ты хлопец, то хрышчу я цябе Адамам, а калі ты дзеўка, то Еваю будзь!!! — пракрычаў ён і зноў перахрысціўся.

Але раптам чуе адтуль грубы голас, сіплы ад перапою:

— Мне бабы трэба, дурню ты! Бабу мне прывядзі, падла!

І чалавек пазнаў па голасе славутага ў ваколіцы валацугу і гультая.

— Сам ты дурань, зараза ты паскудная! — агрызся чалавек і пайшоў сваёй дарогаю.

Вось такі ў нас цяпер фальклор пачынаецца: гарэлка і секс.

**Аўрора**



## САКРАТ ЯНОВІЧ АЧАРАВАЎ БЕЛАВЕЖЦАЎ

5 і 6 лютага г.г. у Белавежы гасцяваў Сакрат Яновіч. Першага дня наш пісьменнік выступіў з дакладам на тэму „Беларусы ў Польшчы" для членаў мясцовага гуртка экскурсаводаў ПТТК. Даклад гэты слухалі таксама ўдзельнікі курса гарцэрскіх апекуноў са Шчэціна. У другім дні аўтар „Загонаў" правёў аўтарскі вечар у памяшканні асяродка „Сучаснай гаспадыні".

Абедзве сустрэчы слухачы назвалі незвычайнымі. Незвычайнымі таму, што С. Яновіч патрапіць ачараваць людзей. Свае выказванні аздабляе жартам, анекдотам, цікавым адступленнем, яскравым прыкладам. Яго проста хочацца слухаць. Хаця кожнае са спатканняў працягвалася 2,5 гадзіны, ніхто са слухачоў не быў стомлены і ахвотна слухаў бы далей, каб не давала знаць аб сабе змучанасць самога дакладчыка. Гэтак рэдка бывае!

Белавежцы дзякуюць пісьменніку і спадзяюцца новых сустрэч з ім.

**Пётр Байко**

Фота Вайцеха Рынажэўскага

## БЕЗ ВЁСКІ І Ў ГОРАДЗЕ БЛАГА

Малочкі — гэта мясціна ўсё яшчэ даволі людная, жыве тут каля трохсот чалавек. Солтыс Уладзімір Гапанюк кажа, што ў Малочках пяцьдзесят гаспадароў, але маладых усяго пяцёра, што не можа не трывожыць. Дзяўчаты і хлопцы кідаюць вёску і перабіраюцца ў блізкі ці далейшы горад, дзе, кажуць яны, культура большая, бо ў Малочках толькі крама і апусцелая святліца... Чамусьці нікому не прыходзіць у галаву, што культура тая з неба не сыплецца сама, яе трэба зрабіць, у гарадах яе таксама робяць канкрэтныя людзі, а не дух святы. Але маладыя, відаць, разумеюць, што культура тады, калі лягчэй і весялей жыць. У горадзе, праўда, лягчэй і весялей, але і бядней, бо за ўсё трэба плаціць, за цыбуліну і за фасольку якую, словам — за ўсё. Толькі той багата жыве ў горадзе, хто мае бацькоў на вёсцы і з іхняй гаспадаркі цягне грошы ды пажыткі ў сваю гарадскую кватэру з дыванамі, ды на машыну. А што будзе, калі бацькі паўміраюць і гаспадаркі тыя кончацца? Адкуль тады дарэмшчыну будзе браць? Бо за самую гарадскую плату вельмі не разгуляешся, а яшчэ ў такі ўпадак грошай. Уцякаюць у горад, смокчучы з вёскі.

**А. Гаўрылюк**

## ХВАРЭЙ І НЕ ЛЯЧЫСЯ

Ужо год будзе, як у Гайнаўцы адчынены другі асяродак здароўя, на вуліцы Ліповай. Абслугоўвае ён раён з больш ста вуліц і семнаццаці падгайнаўскіх вёсак. У асяродку прымаюць — зубны лекар, лекар дзіцячых хвароб і агульны. Значыць, калі захочам, то ўмеем арганізаваць работу: тут амаль не бывае чэргаў зморaных і змучаных чаканнем хворых людзей.

Кіруе асяродкам — як бачым, добра, — лекар Анатоль Сэвэрын. І ўсё тут было б аж да незвычайнасці зусім добра ды акуратна, калі б не адно „аднак". Праекціроўшчыкі асяродка, па сваёй, пэўна, малой кампетэнтнасці, забылі падумаць пра збудаванне памяшкання для аптэкі на месцы, каб людзі не бегалі па горадзе ў пошуках лякарстваў. Гайнаўка не такая маленечкая мясціна, вуліцы цягнуцца кіламетрамі, і да яе цэнтра адсюль далёка. Трэба нешта зрабіць, каб хоць аптэчны пункт які наладзіць у гэтым асяродку. Гэта накіроўваю я ў адрас нашага гайнаўскага начальства.

**Э. Вайсковіч**

захаплення тым, што бачыў, бо бачыў я ў сваім жыцці не адну ўжо сучасную, поўнасцю механізаваную ферму. — Зараз мы наведаем малочную ферму, — працягвала мая спадарожніца. — Яна поўнасцю адпавядае цяперашнім патрабаванням.

Вера Басалай гаварыла чыстую праўду. Даяркі ў белых халатах, каровы чорна-белай пароды, дбайна дагледжаны, аўтаматычнае даенне і паенне, механічная ачыстка ад гною, сцены памаляваны белай вапнай — гэта тое, што давялося мне пабачыць на новай жывёлагадоўчай ферме. Якраз нейкія маладыя жанчыны абнаўлялі гэтае маляванне. Асобна выдзелена тут сацыяльная частка, дзе рабочыя могуць сабе памыцца, нарыхтаваць ежу, чай, а ў халадзільніках могуць яны захаваць мясныя прадукты.

Я пацікавіўся заробкамі гэтых рабочых.

— А вось паглядзіце сабе, — адна з іх паказала мне нейкі машынапісны лісток, які вісеў на сцяне. Аказалася, што гэта даведка аб надоях і зарплаце паасобных працаўнікоў гэтай фермы за чэрвень 1986 года: Клімава В. П. — 267,01 рублёў, Федарэнка М.М. — 244,93 руб., (гэта за 20 дзён працы), Тарагаў І. Е., пастух, за 20 дзён працы, 339,39 руб.

Спісак быў доўгі, але больш прозвішчаў я не ўспеў ужо занатаваць. Мяне паклікалі ў дарогу. Асталося толькі глыбокае ўражанне, што ў гэтым саўгасе сапраўды высокі рублёвы надой, бо трэба памятаць, што сярэдняя зарплата рабочых у гарадах не перавышае 200 рублёў.

**Віктар Рудчык**

Фота аўтара



Сучасная пастушка над возерам Вымна.




## БОРШЧ БЕЛАРУСКІ

На 300 грам свіных касцей узяць 200 г ялавічыны з костачкай, гародніну, 60 г сасісак, 2 буракі, 5 бульбін, 1 морквіну, 1 пятрушку, 1 цыбуліну, 2 сталовыя лыжкі памідорнага перацёру, 20 г шмальцу, 1 сталовую лыжку мукі, 2 чайныя лыжачкі цукру, 2 чайныя лыжачкі 3-працэнтнага воцату, 2 лыжкі смятаны, соль.

Пасячы свіныя косці і ялавічыну, палажыць мяса ў каструлю з халоднай вадой і давесці да кіпення. Гатаваць на малым агні, знімаючы пену. На паўгадзіны перад заканчэннем гатавання пасаліць адвар, а пасля палажыць у яго памытую гародніну. Гатовы адвар працадзіць. Нарэзаную саломкай сырую моркву і пятрушку, а таксама цыбулю падсмажыць на шмальцы, заправіць памідорным перацёрам і патрымаць на малым агні каля 10 мінут. У адвар палажыць нарэзаную бульбу, нарэзаныя саломкай вараныя буракі і падсмажаную цыбулю, моркву і пятрушку. Дадаць памідорны перацёр і разведзеную адварам муку. Усё закіпяціць. Мяса і сасіскі парэзаць на кавалкі і палажыць у боршч.

## КАПУСТА З ЯБЛЫКАМІ

На паўкілаграма ялавічыны з костачкай трэба ўзяць паўкілаграма салодкай капусты, 3 бульбіны, 1 моркву, 1 цыбуліну, 2 яблыкі (найлепш антонаўкі), 2 сталовыя лыжкі шмальцу, 2 лыжкі памідорнага перацёру, 2 сталовыя лыжкі смятаны, лаўровы ліст, зеляніну, соль.

Зварыць мясны адвар. Нашаткаваць капусту; бульбу, моркву і цыбулю нарэзаць. У кіпячы адвар палажыць капусту, а пасля гэтага бульбу. На 10 мінут перад заканчэннем гатавання дадаць падсмажаную моркву і цыбулю, а таксама памідорны перацёр. На 3–5 мінут перад заканчэннем гатавання дадаць парэзаныя яблыкі, перад гэтым абабраныя і ачышчаныя. Дадаць таксама перац, лаўровы ліст і соль. Перад падачай на стол запраўіць капусту смятанай і пасыпаць дробна пасечанай зелянінай.

**Гаспадыня**

(Працяг са стар. 1)

## ДЗВЕ ЛЕНЫ — ДЗВЕ НАСТАЎНІЦЫ РОДНАЙ МОВЫ

адкрыла яе настаўніца, багацце і прыгажосць роднай мовы. Нам расказвалі, што некаторыя малыя дзеткі ў Залуках вітаюцца і развітваюцца толькі словам „добры дзень" і „да пабачэння", бо вельмі ім гэтак падабаецца.

З дзвюма Ленамі мы сустрэліся ў заўсёды гасціннай хаце Галены Тапалянскай у Трасцянцы. Былі святочныя дні. І Галя частавала нас рознымі прысмакамі, заахвочваючы, што зроблены яны па-беларуску. Калі ж мы засумняваліся, яна ўзяла з паліцы кнігу і сказала: „Не знаеце, што маеце, а я рыхтавала па-Коласаваму і пачала чытаць фрагменты з „Новай зямлі".

**Вера Леўчук**

Фота Я. Чэрнякевіч

# У Беластоку сонца ўзыходзіць раней

У кожным нумары нашай газеты на перадапошняй старонцы друкуецца тыднёвы каляндар, у якім, між іншым, можна знайсці інфармацыі аб усходах і заходах Сонца і Месяца. Інфармацыі гэтыя тычацца 15 градуса ўсходняй геаграфічнай даўжыні (сярэднееўрапейскі час).

Ужо ў пятым класе пачатковай школы на ўроках геаграфіі дзеці вучацца пра тое, што Зямля круціцца навокал свае восі, а поўны абарот яна выконвае на працягу 24 гадзін. Падчас гэтага кружэння звяртаецца да Сонца паслядоўна рознымі часткамі сваёй паверхні, прычым штораз іншы геаграфічны мерыдыян знаходзіцца насупраць Сонца. На мерыдыяне, які ў дадзены момант найбольш экспанаваны да Сонца, маем сонечны поўдзень. Калі б у нашым жыцці абавязваў сонечны час, то на кожным мерыдыяне быў бы ён іншы, што ў паслядоўнасці выклікала б сур'ёзныя непаразуменні. Для аднастайнасці былі ўведзены так званыя паясныя часы. З той прычыны паверхню Зямлі падзялілі на 24 геаграфічныя паясы шырынёю па 15 градусаў кожны і розніцай адной гадзіны паміж паясамі.

Такі падзел таксама не заўсёды дае спадзяваныя карысці, бо граніцы краін наогул не адпавядаюць граніцам паясоў. Для прыкладу, большая частка тэрыторыі Польшчы знаходзіцца ў поясе сярэднееўрапейскага часу. Пояс гэты ахоплівае тэрыторыю ад 7 градуса 30 мінут па 22 градус 30 мінут усходняй геаграфічнай даўжыні (ад 7°30'E па 22°30'E). Але ўсходняя тэрыторыя Польшчы, у якой ляжаць такія ваяводскія гарады як Сувалкі, Беласток, Бяла-Падляская, Люблін, Холм, Замасць і Пшэмысль знаходзяцца ўжо па-за яго граніцай, і такім чынам у поясе усходнееўрапейскага часу. Мерыдыян 30°E праходзіць цераз Усходнюю Беларусь і Цэнтральную Украіну. Калі б у нас абавязвалі паясныя часы, то на гадзінніках у нашай часткы Польшчы павінен быць на гадзіну большы час, як у заходняй Польшчы. Каб пазбегнуць цяжкасцей, якія вынікаюць з прычыны існавання гэтых двух часаў, улады краіны ўвялі для ўсяе тэрыторыі Польшчы дэкрэтны час — час мерыдыяна 15°E, гэта значыць, — сярэднееўрапейскі. Падобным чынам было зроблена ў іншых краінах Еўропы і свету. Але ў СССР, дзе паралельная працягласць тэрыторыі вельмі вялікая (14 геаграфічных паясоў), зразумела, не можна было ўвесці адзін дэкрэтны час.

У летнім паўгоддзі, перш за ўсё беручы пад увагу эканамічныя карысці, так як і ў іншых краінах Еўропы, зімовы (сярэднееўрапейскі) час заменьваецца летнім (усходнееўрапейскім). Увесну стрэлкі гадзінніка папросту трэба пераставіць на адну гадзіну ўперад, каб увосень на адну гадзіну вярнуць назад. З гэтага бачым, што ва ўсходняй Польшчы летні час адпавядае паясному часу.

Сталіца нашага ваяводства ляжыць на 23 градусе 8 мінутах усходняй геаграфічнай даўжыні. Розніца паміж мерыдыянам 15 градусаў, які праходзіць цераз самую заходнюю частку Польшчы, складае — як без цяжкасцей можна палічыць — 8 градусаў 8 мінут. Зямля на вугал аднаго градуса абарочваецца ў часе 2 мінут, а на вугал адной мінуты — на працягу адной секунды. Можна таксама хутка палічыць, што розніца паміж мясцовым часам Беластока, і часам мерыдыяна 15°E складае 32 мінуты і 32 секунды. Гэта значыць, што ў Беластоку Сонца ўзыходзіць больш за паўгадзіны раней! На столькі ж сама мінут і секунд раней яно заходзіць.

Вельмі падобную справу маем з гадзінамі ўсходу і захаду Месяца, які так як і Сонца, у сваім руху па купале неба вандруе ў напрамку ўсход-захад. Розніца тут толькі такая, што месячныя суткі не трываюць 24 гадзіны, а крыху больш — 24 гадзіны і 53 мінуты. Абазначае гэта, што Месяц крышку павальнейшы ў сваім перамяшчэнні па нябесным купале. Каб адолець вуглавую адлегласць 8 градусаў 8 мінут, ён патрабуе 33 мінут і 44 секунд часу.

Калі ўжо на перадапошняй старонцы „Нівы“ друкуецца гадзіны ўсходу і захаду Сонца і Месяца для 15°E, то трэба ведаць, што на Беласточчыне з прычыны значнай адлегласці ад гэтага мерыдыяна пададзены час далёка адыходзіць ад праўды. А наш тыднёвік адрасуецца першнаперш жыхарам Беласточчыны. Думаю аднак, што не патрэбныя тут нейкія дадатковыя рубрыкі, ці нават дадатковыя інфармацыі пад табелем. Тыя чытачы, якія прачытаюць мае паясненні, спадзяюся, што ўсё з іх найважнейшае запамятаюць. І так, каб у зімовым (сярэднееўрапейскім) часе акрэсліць дакладны час усходу і захаду Сонца ў Беластоку, ад часу дадзенага ў табелі трэба адняць 33 мінуты. У летнім (усходнееўрапейскім) часе трэба дадаць 27 мінут. Таксама ў выпадку ўсходу і захаду Месяца прапаную ў зімовым часе адняць 34 мінуты, а ў летнім часе дадаць 26 мінут. Такім чынам мы атрымаем дакладныя для Беластока гадзіны ўсходу і захаду Сонца і Месяца.

Яшчэ ўжо для зацікаўленых тэмай хачу я прыгадаць, што ўсё нашае Беластоцкае ваяводства ляжыць у поясе усходнееўрапейскага часу. У Белавежскай пушчы (усходняя ўскраіна ваяводства) Сонца ўзыходзіць на 6 мінут раней, чым у заходняй ускраіне, якая знаходзіцца ў паўночна-заходнім напрамку ад Драгічына. На 1 мінуту і 36 секунд раней будзіць Сонца жыхароў Гайнаўкі (23°35'E), як жыхароў Бельска (23°11'E). А ўсе мы добра ведаем, што часта адна мінута, калі мы, напрыклад, спяшаем куды-небудзь, мае вялікую вартасць.

**Юрка Баена**




Дарагое Сэрцайка! Я ўжо немаладая жанчына і ў жыцці бачыла нямала. Але як пагляджу навокал, то проста сэрца баліць. Колькі сёння на свеце разводаў, колькі застаецца пакрыўджаных жонак і дзяцей. Гавару аб гэтым зусім свядома, менавіта, найчасцей бываюць пакрыўджаныя жонкі і дзеці. Мая дачка пражыла са сваім мужам 15 гадоў. Прычакалі трое дзяцей. Усе дзеці здаровыя, бы тыя рыжыкі. Дачка мая вельмі прыгожая дзяўчына была, ды і працавітая таксама. І ў хаце было ў яе прыгожа, і апрануты ўсе, і накормленыя не абы-чым, і заўсёды дбала яна пра тое, каб дзеці мелі радасці ў жыцці: то акварыум ім купіла, то фотаапарат, то канькі, то лыжы. І вось уяві сабе, што пасля 15 год супольнага жыцця мой зяць знайшоў сабе іншую, вядома, маладзейшую і, не скажу, прыгожую. І адышоў без ніякага жалю, пакінуўшы кватэру, усё ў кватэры, ды прыгнечаную жонку з тройкай падрастаючых дзяцей.

Я ўжо думала так многа на гэту тэму, што цяпер і сама ўжо нічога не разумею. Гляну з аднаго боку на зяця. Ну, што ж, пэўна, што яму цяпер някепска: жонка маладая, прыгожая, адразу яе бацькі купілі яму аўтамабіль. Апрануты ён, як лялька (у яе ж прыватны магазін), усюды разам ездзяць па свеце. Так, яму добра. Але ці добра яго жонцы і дзецям? Дзеці ж у канцы-канцоў на свет не прасіліся, а цяпер бацька ім здрадзіў і спакойна раз'язджае сабе па свеце ды жыве шчасліва, як малады хлопец, не думаючы пра тое, ці яго дзеці, як трэба, накормлены і апрануты.

І думаю я сабе так: чаму гэта баба рэдка калі штосьці такое зробіць, бо калі нават і закахаецца ў іншага, то заўсёды пра дзяцей і дом думае. Мо на тысячу адна зробіць нешта такое, як робіць амаль адна трэцяя ўсіх мужыкоў. А дзеці ж гэтыя не толькі жончыны, але і мужавы. Але пра тое, як ім будзе, мужчыны найчасцей не думаюць у пагоні за ўласным шчасцем, за ўласным задавальненнем. Дзе ж тут логіка і дзе сумленне?

**Агата**

Агата! У наш неспакойны час разводы сталі ўжо такой звычайнай справай, што найбольш арыгінальныя сем'і захоўваюць сям'ю ў цэласці, бо муж з жонкаю там не разводзяцца. Вядома, што мусяць яны ісці на некаторую дозу талерантнасці. Да гэтага павінны быць падрыхтаваны абодва бакі. Можа, гэта і добра было б, калі б пачуцці ў сям'і праз 15 год супольнага жыцця былі таксама свежыя, як у дзень шлюбу, але, на жаль, жыццё ёсць жыццё, а яно шэрае, і таму ўзнікаюць розныя кампліканцыі. Вядома, што найчасцей адыходзіць мужчына, бо па сваёй прыродзе жанчына больш звязана з дзецьмі (і фізіялагічна і псіхічна: яна ж гэтых дзяцей не толькі нарадзіла, але і выхоўвала, як жа ж магла б яна іх кінуць?!). Мужчына, жэнячыся з іншай жанчынай, яе дзяцей можа пакахаць больш, чым сваіх родных. Зрэшты, да гэтага прымушаюць яго ўмовы: ён жа з імі жыве і імі мусіць апекавацца. Вельмі крыўдна глядзець на ўсё гэта першай жонцы, з асабліва яе дзецям. Ведаю аднаго такога, які ўсё жыццё збіраў з жонкай на самаход, і ўрэшце назбіраў-такі, але сёння ўжо возіць гэтым самаходам дзяцей новай жонкі. Няма на гэта рады і логікі тут таксама ніякай няма. А шкада.

**Сэрцайка**




62

**Ліст** атрымаць — у будучыні цябе чакае заможнасць, багацце; чытаць — выйсці замуж (ажаніцца); пісаць — цікавыя звесткі; знайсці — афіцыяльная справа; згубіць — благія звесткі; спаліць — лёгкадумнасць; адкрываць — асцерагайся злодзея.
**Лістанош** — добрыя навіны.
**Лістоўніца** (моджэў) — верны і шчыры прыяцель.
**Лісці** зялёныя — шчасце і моцнае здароўе; звяўшае і ападаючае — сум і страта сяброў.
**Літара** — падарожжа па далёкіх краінах; пісаць — няшчасце; вучыцца — прыбытак у дзецях.
**Літургія** (абедня) — шчасце па справах і ў гаспадарцы.
**Ліхвяр** — пошукі неадпаведнай дапамогі; гаварыць з ім — благая кампанія; быць ім — дакоры сумлення.
**Ліхтар** вулічны — расстроіш чыесьці інтрыгі; гасіць — не лезь у чужыя справы; запальваць — добрая пасада, моцная гаспадарка; чарадзейны — цябе ашукаюць; ліхтар звычайны несці — добрыя сябры; з палаючай свечкай — радасная звестка; без свечкі ці святла — клопаты, сум.
**Лічбы** малыя — няўпэўненасць; вялікія — удача ў дзеянні.
**Лічыць** — дачыненні са скупымі.
**Лішай** — багацце, заможнасць.
**Лоб** шырокі — удача; нізкі — асцярожнасць; высокі — дзейнічай адважна.
**Лодка** — гарачая небяспека; плысці ёю — нявернасць; тонучая — сарваныя заручыны.
**Ложа** — засмучанне.
**Ложак** пусты — смерць; з бруднай пасцеллю — сямейнае шчасце; упасці з яго — асцярожнасць у справах; прыгожы — шчаслівая сям'я (маладое сужонства); уставаць — здароўе вернецца; у промнях сонца, асветлены — дабрабыт.

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

### СЛОВЫ ШЧЫРЫЯ І ЖЫВЫЯ

Заўтра мамы свята,
А ты хоць тут трэсні —
Няма ідзе кветак,
Холад на прадвесні.

І на лузе пуста,
І у садзе глуха,
Кветкі схаваліся,
Ні адной, ні духа.

Тут Антось прыдумаў:
Кветку нарысую.
Будзе як жывая,
Калі размалюю.

А пад кветкай словы,
Вышшу такія,
Вось яны якія,
Шчырыя, жывыя:

„Мамачка-галубка,
Сёння Тваё свята.
Дык жыві здарова,
Радасна й багата“.

Рана, вельмі рана,
Гэтую паштоўку
Занясу пацішку
Пад яе галоўку.

А калі прачнецца,
Гэта я пачую,
Забягу і моцна
Мамку пацалую.

А жывых ёй кветак
Летам назбіраю.
Дзе растуць на лузе, —
Гэта добра знаю.

**Янка Беразавец**
**Курашава**



Удзельніцы дэкламатарскага конкурсу з Дубін: Бася Гіпш, Аня Аксенцюк і Тамара Гацута. Рыхтавала іх да конкурсу настаўніца беларускай мовы Вольга Гарустовіч.

Фота Яніны Чэрнякевіч.

## ВЯСЁЛЫ КУЛІК

З ініцыятывай сарганізавання куліка выступіла на бацькоўскім сходзе 29 студзеня дырэктар школы ў Барысаўцы мгр Аліна Грыгарук. Бацькі ахвотна прынялі прапанову. Арганізацыйны штаб куліка склалі дырэктар і настаўнікі школы, старшыня бацькоўскага камітэта Анна Врублеўская, лясніча Мікалай Ластавецкі і ляснік Кастусь Янюк.

Усе чакалі з нецярплівасцю. Баяліся вялікіх марозаў. Але зіма-ўладарніца памалу траціла сваю моц. Кулік адбыўся 14 лютага. Ад раніцы нават сонца засвяціла. У 11 гадзін пяць саней запханых да апошняга месца, вырушылі на кулік. Ехалі праз вёску. Жыхары выходзілі на вуліцу, каб паглядзець на вясёлы карагод.

За Барысаўкай павярнулі на палявую дарогу, якая вядзе ў Белавежскую пушчу. Паўгадзіны ехалі лесам. Коні беглі хутка. Наперадзе ехаў ляснік Кастусь Янюк з жонкай і горбай

(Працяг на стар. 10)

## БЕЛАРУСКІЯ ПТУШКІ

### САРОКА

Каля лесу недалёка
Скача з куста ў куст сарока,
На мяне ўсё пагядае
І трашчыць, як завадная:
— За папер-рку
Дай цукер-рку...
— Што? Дык казку ты украла
І ў гняздзе сваім схавала,
Нарабіла шуму, крыку,
А цяпер табе дай выкуп?
Не, зладзейка-дабрадзейка,
Зараз я зраблю праверку
І такую дам цукерку —
Растрасу тваю сямейку!

Мне адказвае сарока:
— Да гнязда майго высока.
Праўда, што люблю я красці,
Але ж рэчы дарагія —
Срэбраныя, залатыя.

Лыжкі, гузікі, пярсцёнкі,
Што здалёк ўсім відны,
Густ на іх у мяне тонкі.
А якое з казкі шчасце?
Ёй няма ў мяне цаны...

Я падумаў: за прызнанне
Памяншаюць пакаранне.

У гняздо я не палез,
А далей падаўся ў лес.






(Апавяданне)

З настаўнікаў свайго класа дзеці найбольш любілі Івана Рыгоравіча. Мусіць, таму і далі яму другое простае і дасканалае імя — дзядзя Ваня. Іван Рыгоравіч быў класным кіраўніком, а дзядзя Ваня — лепшым сябрам. Іван Рыгоравіч выкладаў родную мову, а дзядзя Ваня часта, як роўны з роўнымі, любіў „зрэзацца“ з заўзятымі класнымі шахматыстамі, наладжваў гульні, вадзіў на экскурсіі і, апрача ўсяго, цікава расказваў розныя гісторыі. Але найбольш любілі вучні слухаць яго расказы з партызанскага жыцця.

Аднойчы на ўроку англійскай мовы Коля, якога за круглыя пяцёркі па арыфметыцы сябры называлі „матэматыкам“, узняў бунт супраць замежных моў. „Навошта, — кажа, — дарэмна толькі галаву ламаць. Хопіць мне і сваёй мовы. Я не збіраюся стаць настаўнікам замежных моў...“

Праўда, Коля меў падставы так абурацца: у той дзень ён схапіў двойку ў выкладчыцы англійскай мовы Ларысы Аляксееўны, да таго ж не першую ў годзе...

Даведаўшыся пра Колеў бунт, Іван Рыгоравіч затрымаў клас пасля ўрокаў.

— А кім ты хочаш быць? — запытаўся ён у Колі.

Гэтае пытанне не было для Колі нечаканым. Ён даўно ўжо марыць стаць настаўнікам і абавязкова такім, як Іван Рыгоравіч, гэта значыць, ён будзе выкладаць родную мову і расказваць дзецям цікавыя гісторыі. Ён так шчыра і адказаў на пытанне настаўніка.

Іван Рыгоравіч усміхнуўся, здаволены адказам, потым зноў запытаўся:

— Дык навошта будучаму настаўніку роднай мовы вучыць арыфметыку?

Коля запнуўся. Аб гэтым ён ніколі не думаў. Таму замест адказу ён толькі падняў вышэй плечы і ніжэй апусціў галаву. Дзеці зашумелі, а Іван Рыгоравіч сказаў з ноткай строгасці ў голасе:

— Усе гэтыя пытанні даўно вырашаны. Ты, Коля, не праў. Папрасі выбачэння ў Ларысы Аляксееўны і больш так не рабі. Усё, што мы вучым у школе, патрэбна і настаўніку будучаму, і інжынеру, і афіцэру. А што гэта так, раскажу пра адзін выпадак. Сядай.

Коля сеў, надзьмуўшыся. У класе настала цішыня. Дзесяткі вачэй глядзелі на настаўніка, з цікаўнасцю чакаючы яго новага апавядання.

— Была ў нас сувязная Валя, — пачаў Іван Рыгоравіч. — Да вайны скончыла чацвёрты клас. І заўсёды прыходзіла да нас з кошыкам у руках. Немцы, вядома, і не здагадваліся, што не па ягады ці грыбы хадзіла ў лес гэтая маленькая дзяўчынка, а што на дне яе кошыка, у патайных сховах, ляжала шыфраваная запіска або нават рэвальвер ці тол... Усё гэта перасылала нам праз Валю гарадская падпольная арганізацыя. Валя маскіравала кошык зверху рознымі шпількамі, іголкамі і рознай драбязой. „На хлеб мяняць іду ў вёску, — выстаўляла напаказ яна сваю „краму“, калі хто з цікаўных пытаўся, куды ідзе.

У атрадзе ўсе яе ведалі і любілі. „Чарнавочка“ — так празвалі мы Валю. Жыла яна дома з маткай, а бацька быў у нас у атрадзе. Аднойчы прыйшла ў атрад сумная вестка: Чарнавочка трапіла ў гестапа...

Як потым высветлілася, здарылася гэта зусім нечакана. Раніцай яна збіралася ў атрад з чарговым кошыкам падарункаў для нас. І калі кошык быў ужо спакаваны і ўсё зроблена, як належала быць, у дзверы раптам пастукалі. Чарнавочка падумала, што гэта маці вярнулася з рынку. Але з асцярожнасці ўсклікнула: „Хто?“ У адказ пачула нямецкую гаворку.

Чарнавочка аднак не вельмі напужалася. Яна адчыніла акно і ўхапілася за вадасцёкавую трубу. Па гэтай трубе можна было спусціцца проста ў сад. Але ці то ад спешкі, ці то кошык перашкодзіў, — яна не ўтрымалася на гладкай трубе і ўпала з вышыні другога паверха... А калі ўстала, дык адчула пякучы боль у ступні правай нагі. Потым пачала паўзці праз сад да суседніх будынкаў. А тым часам немцы паспелі зламаць дзверы

**Алесь Якімовіч**

(Працяг на стар. 10)

# У НАШАЙ ГРАМАДЦЫ

Падручнік беларускай мовы для пятага класа
Аўтары: Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук

## СКЛАД І НАЦІСК

**Спалучэнне гукаў або адзін гук у слове, якія вымаўляем адным штуршком паветра, называем складам:** мо-ра, дзядзька, А-ся, **конь. У слове столькі** складаў, колькі ў ім галосных: **сталь (адзін склад), май-стар (два склады), стан-цы-я (тры склады), пе-ра-роб-ка (чатыры склады). Складам можа быць** адзін галосны гук: а-пош-ні, і-дзі.

**Літары й, ў складу не ўтвараюць і таму называем іх нескладовымі:** май, роў, лі-ней-ка, гля-нуў.

**Вымаўленне аднаго са складоў слова з большай моцай голасу, называем націскам** (akcentem), **а склад, на які падае націск, — націскным:** во-ка, цём-ны, ме-ха-ніка, каман-дзір. **Ад таго, на які склад падае націск, можа залежаць значэнне слова:** ка-ра — ка-ра, пла-чу — пла-чу.

**У беларускай мове націск рухомы. Ён можа пераходзіць з аднаго складу на другі пры змене слова:** ад-рас — адра-сы, дом — да-мы, а-сот — аса-ты.

*1. Прачытайце словы. Спішыце, дзелячы іх на склады. Націскныя склады падкрэсліце.*

Баравік, агонь, пераявярнуць, асінавы, кніжка, слоўнік, месяц, лейка, журавель, перапоўніцца, пайшоў.

*2. Прачытайце словы і вызначце ў іх націск. Спішыце, дзелячы словы на склады і падкрэсліваючы ў іх націскныя склады. Перакладзіце словы на польскую мову і таксама вызначце ў іх націскныя склады. У якіх словах ёсць розніца ў месцы націску?*

**Узор.** Народ — на-род, naród — **na-ród.**

**Малаток,** з'езд, будаўніцтва, **яблыня,** заехалі, Польшча, кіно, **пайшлі,** каваль, нянавісць.

## ГАЛОСНЫЯ О, Э

**Галосныя о, э, вымаўляюцца і пішуцца толькі пад націскам: мост,** гоман, рэдкі, сэрца. **Не пад націскам о, э пераходзяць у а: масты,** гаманіць, радзець, сардэчны.

**Галосная э вымаўляецца і пішацца таксама не пад націскам у словах іншамоўнага паходжання:** рэцэпт, ветэран. Эстонія, Эльблёнг.

**Галосная о пішацца не пад націскам у іншамоўных словах, якія заканчваюцца на -іо, -ыо: Токіо, ададжыо.**

*1. Змяніце словы так, каб о, э перайшлі ў а.*

**Розум,** звон, трэск, шэпт, **шоўк,** сустрэча, волас, просьба, **космас.**

*2. Прачытайце. Змяніце словы або ўтварыце новыя так, каб у іх замест ненаціскнога а вымаўляліся о або э.*

Галубы, стража, палі, баравы, маразы, шасцёрка, чарпак, заламаты, шчабятаць, жаўцець, страляць.

*3. Спішыце. Замест кропак устаўце прапушчаныя літары. Растлумачце іх правапіс.*

Мат...матыка, р...валюцыя, т...рмометр, ц...мент, т...левізар, т...леграма, д...сант, т...рыторыя, тр...нiроўка.



(Працяг са стар. 9)

## ВЯСЁЛЫ КУЛІК

дзяцей. Дарога была лёгкая. Нарэшце ўбачылі паляну і лясніча Мікалая Ластавецкага з жонкай Аннай.

На паляне адбылося агульнае вітанне, а потым ляснічы распаліў вялікае вогнішча. Рэха панясло па лесе гарцэрскую песню „Гарыць вогнішча". Пасля спявалі беларускія песні.

Ля вогнішча старшыня бацькоўскага камітэта пастаралася выдаць усім гарачы бігас. Пасля пачастунку пайшлі гуляць на снезе. Настаўніца Валя Дзмітрук падрыхтавала цікавыя гульні. Было многа конкурсаў. За ўдзел усе атрымалі ўзнагароды. Затым елі печаную на агні каўбасу. Было многа радасці.

Наканец дырэктар школы, развітваючыся, у цёплых і шчырых словах падзякавала ўсім за дапамогу. Дамовіліся, што такі кулік варта арганізаваць штогод.

Андрэй Ялоза
настаўнік
Фота В. Кандрацюка

(Працяг са стар. 9)

## ЧАРНАВОЧКА

і заўважылі яе праз адчыненае акно...

Даведаўшыся аб бядзе, у якую трапіла Чарнавочка, мы ўсе дужа засмуткавалі. Цяжка было на сэрцы і ў камандзіра, і ў байцоў. Лішне і казаць, як перажываў такое гора родны бацька. Ён неяк раптам пастарэў, асунуўся. А праз нейкі час прыйшла ў атрад і маці. Ёй цяпер заставацца дома нельга было. І, гледзячы на пакуты бацькоў, мы яшчэ больш балюча адчувалі ўдар, які нанесла нам гестапа.

„Што рабіць?" — было ў кожнага ў думках. Мы будавалі розныя планы, як выратаваць нашу любіміцу, і ўсе яны здаваліся нам ненадзейнымі. Заставалася толькі зрабіць налёт на гарнізон ворага. Але сілы ў нас былі няроўныя, і пры няўдачы мы рызыкавалі шмат чым.

Нарэшце, я падышоў да камандзіра.

— Дазволь, — кажу, — паспрабаваць шчасця...

Камандзір недаверліва глянуў мне ў вочы. А калі я расказаў яму, што прыдумаў, згадзіўся.

— Добра, — кажа. — Хоць і адчайны, і небяспечны твой план, ды мы — салдаты. Без рызыкі на вайне не бывае. А калі табе будзе цяжка, памятай — гэта ты робіш дзеля Чарнавочкі, нашай партызанскай дачкі!

**Заканчэнне**
**ў наступным нумары**

## Пішуць школьнікі

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА".

У нас у школе адбыўся калядны вечар. Кожны атрад гарцэраў прынёс па адной свечцы. Селі мы ў круг, а пасярэдзіне стаяў букет з галля ёлкі, упрыгожаны зорачкамі. Побач ляжала дошка, на якой стаялі свечкі. Заспявалі мы адну „пастаралку", а потым спявалі беларускія калядныя песні.

Дружыновы выступіў з навагодняй гутаркай. Была таксама гульня, якая называлася „сентыментальны аркестр" і якая ўсім спадабалася. Пасля адбыўся конкурс на тэму гісторыі гарцэрства. Былі дзве групы — хлопцы і дзяўчаты. Гэты раз выйгралі дзяўчаткі.

Наступная забава была самай цікавай. Усе ўдзельнікі набіралі ваду ў рот, каб не гаварыць паміж сабою. І кожны пісаў на паперы па адным слове, пакуль не выйшаў цэлы сказ. Усе вельмі добра гулялі.

*

Наступіў новы 1987 год, а разам з ім розныя карнавальныя балі. Мы, гарцэры 125 ДГ імя генерала Кароля Сварчэўскага і зухі зрабілі вельмі ўрачысты і прыгожы баль перабіранцаў. Да гэтай прыгожай забавы мы рыхтаваліся два тыдні.

10 студзеня адбыўся наш карнавальны вечар. Распачаўся ён не так як заўсёды — песняй гарцэраў „Плоне агніска ў лесе", але словамі Я. Бжэхвы: „Вітайце ў нашай байцы". Кожны ўдзельнік гэтай імпрэзы скрываўся пад іншай постаццю. Не бракавала сярод нас д'яблаў, клоўнаў, самураяў і іншых. За найцікавейшую вопратку былі прызнаны ўзнагароды. Усе хацелі, каб як найлепш прыбрацца, каб спадабацца ўсім сваім гумарам і паводзінамі.

На заканчэнне адбылася дыскатэка. Ніхто не нудзіўся, усе гулялі і спявалі. Цэлы гэты вечар быў вельмі прыемны.

Гарцэры школы Крывец

### ГУЛЯЙЦЕ НА ДВАРЫ

Раз, два, тры, чатыры,
Кошку грамаце вучылі:
Не чытаць, не пісаць,
А за мышкамі скакаць.

* * *

Плыў па моры чамадан,
У чамадане быў дыван,
На дыване плаваў слон.
Хто не верыць — выйдзі вон.

## Вучнёўская творчасць

### ВЯСНА

**Прыляцеў ужо шпак,**
**Весела заспяваў так:**
**Дзеткі, вясна прыйшла,**
**Што вам прынясла?**

**Дзеці адказалі шпаку:**
**Прынясла вады поўную раку,**
**Зялёную траўку на лужку,**
**Прыгожыя кветкі ў ляску.**

**Вярнуліся таксама і твае сябры:**
**Жаваранкі, кнігі, гусі і буслы.**
**Ярка засвяціла сонца**
**У нашыя класы, у нашае аконца.**

**Верш вучняў**
**II-IV класаў са школы**
**ў Ляшуках**

## Вясёлы куточак

Настаўніца паясняе:

— Запамятайце, няма большай ці меншай палавіны. Палавіны заўсёды роўныя!

Голас з апошняй парты:

— Паўтарыце яшчэ раз, калі ласка, бо большая палавіна класа не зразумела.

* * *

Ваня пытаецца ў Пеці:

— Чаму зімой няма камароў?

— Бо яны адлятаюць у вырай, — тлумачыць Пеця.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

СССР, 346406, г. Новочеркасск, Ростовской обл., ул. Клещёва, 82. Окара Оля. 11 год.

* * *

СССР, 346514, г. Шахты, Ростовская обл., ул. Первомайская, д. 39, кв. 22. Боцман Наташе. 5 клас.

* * *

СССР, 346503, г. Шахты, Ростовской обл., ул. Красинская д. 118а, кв. 19. Шубиной Елене. 8 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 7, кв. 38. Ала Харчэнка, 2 клас

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 81, кв. 30. Саша Нікіфараў, 5 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 9, кв. 91. Алёша Бараноўскі, 4 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 9, кв. 62. Саша Мальчэўскі, 5 клас.


Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1

## КВЕТКІ ДЛЯ КАХАНАЙ

З Кастусём Петрусевічам здарылася нешта такое, чаго ён ніяк не чакаў. Ён захакаўся. І гэта ў сталыя гады! Калі сын ходзіць у чацвёрты клас, а на галаве паменшала валасоў. Ён купіў кветак, і крыху саромеючыся, разважаў, як бы іх лепш паднесці...

І ў каго закахаўся Кастусь? Ва ўласную жонку! А здарылася гэта вось як.

Незадоўга да абеду Петрусевіч з папкай пад пахай борздка ішоў у бок больш высокай установы, чым тая, дзе працаваў. Ішоў, бесклапотна пасвістваў. І раптам убачыў наперадзе стройную жаночую фігуру. „Вось дык находка! — падумаў Кастусь. — Напэўна, артыстка. Вось бы глянуць у твар..."

І ён прыбавіў кроку, каб дагнаць незнаёмку.

Хутка адлегласць паміж Петрусевічам і жанчынай скарацілася. Ён ужо быў набраўся духу, каб абагнаць яе, як ледзь не аслупянеў. Гэта была Ірына, яго жонка!

Такой яе, Кастусь, здаецца, і не бачыў ніколі. Калі Ірына адыходзіла на работу, ён, звычайна, спаў, а вяртаўся ўвечары дадому — жонка была ў простым сваім халаціку... Кастусь спачатку падумаў, што памыліўся. Заплюшчыў і расплюшчыў вочы — не, яна, Ірына! Вунь нават тыя самыя завушніцы, што купляў у першы месяц пасля вяселля... Як даўно гэта было!...

Да самага вечара ў яго ных вачах стаяла стройная жаночая постаць. І вось Кастусь нясе дахаты кветкі...

На сэрцы было добра.

**Васіль Феранц**



# НІЎКА



— Ах, Наташа, якая я шчаслівая нарэшце, што пачула чалавечы голас!

## ХРЭН І РЭДЗЬКА

Ой, вяселейка  
Чорт нам даў:  
Ажаніўся Хрэн,  
Рэдзьку ўзяў.

Сталі жыць яны,  
Пажываць,  
Адзін аднаго  
Дапякаць.

А хто з іх вастрэй  
Ды гарчэй?  
А хто пякане  
Гарачэй?

Усё стараюцца  
Верх узяць  
А гады ідуць,  
Дні ляцяць.

Так да старасці  
Дажылі.  
Толькі й ведалі,  
Што „пяклі".

Іх жыццё — ланцуг  
Горкіх з'яў.  
І не дзіва: Хрэн  
Рэдзьку ўзяў.

**Цімох Карага**

## НЕ БАЛІЦЬ

Каралінка з маці пайшлі ў стаматалагічную паліклініку. Маці пачала супакойваць дачку, каб тая не хвалявалася:

— Калі будзе балець, ты паўтарай: мне не баліць, мне не баліць.

Дзяўчынка выходзіць ад доктара, а маці пытаецца:

— Ты паўтарала, як я казала?

— Ага, мамачка, як жа я магла паўтараць, калі ў мяне рот быў заняты?



Шлюб развязаў яму вочы, але звязаў рукі.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Фру Ольсен наведала свайго мужа ў турме і на яго спачувальнае пытанне, ці не гаруе яна без яго, адказала:

— О, не турбуйся! Узнагарода за тваё злаўленне аказалася настолькі вялікай, што мне яе хопіць на шмат гадоў.

✲

Мэр горада з жонкай прыехалі нейк на будоўлю.

— Нэнсі, ты памятаеш мяне? — спытаў жонку мэра рабочы ў касцы. — Памятаеш, як мы ў школе дамаўляліся на спатканне?

Потым мэр паддражніваў сваю жонку:

— Ці ж табе не пашанцавала, што ты выйшла замуж за мяне? Інакш быць бы табе жонкай муляра.

— Не, гэта табе пашанцавала. Інакш ён быў бы мэрам.

✲

Адзін аматар оперы пахваліў вакальнае майстэрства Марыі Калас у прысутнасці малавядомай спявачкі.

— Падумаеш! — пагардліва ўсклікнула спявачка. — Мне б яе голас, я б яшчэ і не так спявала!

З „Весніка Задрыпоніі"

## ЯК УТАЙМАВАЦЬ МУЖА

На другі ж дзень пасля вяселля катэгарычна забараняем мужу вольнае хаджэнне да сяброў і блізкіх, а праз тыдзень пачынаем яму элементарна грубіць. Далей у адносінах да яго з кожным днём становімся ўсё больш капрызнымі, прад'яўляем розныя прэтэнзіі. Да заканчэння мядовага месяца абавязкова трэба дабіцца таго, каб муж падпарадкоўваўся жонцы абсалютна ва ўсім. Калі вы ўвачавідкі перакanaецеся, што ён поўнасцю знаходзіцца пад вашай уладай, неабходна знайсці прычыну разладу з ім, аблаяць, зняважыць яго, напалохаць, што кінеце яго. Крыху пазней вы можаце мужа нават злёгку набіць.

І вось, калі ваш муж стане рахманым, паслухмяным, вы зажывеце з ім прывольна і шчасліва.



— Гэта ўсё, што засталося ад мамата?!

## САКРЭТ

— Колькі вам год? — пытае суддзя ў сведкі.

— Мне споўнілася трыццаць, — адказвае тая шэптам.

— Добра, добра, а ў якім годзе?

## КАШМАР

Псіхіятр — пацыенту:

— Значыць, кожную ноч вам сніцца нейкае кашмарнае стварэнне, якое кідаецца на вас, крычыць і б'е па галаве качалкай? Зразумела, гэта здань знікае пасля абуджэння?

— У тым вось і справа, што не, доктар. Раніцай яна звычайна крычыць: „Хопіць дрыхнуць, лодар, адвядзі дзяцей у прадшколле".

## СМЕЛЫ

— Я чула, што ваш муж вучыцца вадзіць аўтамабіль. Як у яго справы?

— Надрэнна. Ён ужо навучыўся на скрыжаваннях расплюшчваць вочы.





Запарыўся...

# Курёзы

## ПРЫТУЛАК ДЛЯ МУЖОЎ

Невялікі гарадок Суіндан, размешчаны на захадзе Англіі, нічым асабліва не славіцца. Праўда, ёсць у ім адна „славутасць": прытулак для збітых мужамі жонак. Гэта ўстанова была адкрыта мясцовай жаночай дабрачыннай арганізацыяй, а прымаюць туды толькі тых жанчын, хто сапраўды пацярпеў ад моцных пабояў. Можна падумаць, што ўсе мужы ў Суіндане — людзі суровыя і моцныя, якім абсалютна не ўласціва слабасць. На самай справе гэта не зусім так. „У мінулым годзе, — паведаміла актывістка руху ў абарону жанчын Джэні Мэнерс, — нам званілі дзесяткі два мужоў, якіх пабілі, падрапалі, збілі з ног, парнулі нажом ці абварылі крутым кіпятнем уласныя жонкі". Яе добраахвотная група (тая самая, што заснавала прытулак для збітых жонак) падумвае аб тым каб пачаць кансультаваць па тэлефоне трапіўшых у пераплёт мужоў. „Ім (мужам) сапраўды іншы раз прыходзіцца туга", — сказала місіс Мэнерс. Даведаўшыся аб гэтых кансультацыях, члены муніцыпальнага савета Суіндана вырашылі адкрыць яшчэ адзін прытулак — для мужоў. „Мы ўвесь час забываем, што жанчыны таксама могуць прыходзіць у лютасць", — заўважыў адзін з „айцоў горада" і прапанаваў перадаць кіраўніцтва новым прытулкам... арганізацыі Джэні Мэнерс.





Калі ў час спрэчкі вам удаецца пераканаць жанчыну, дык, хутчэй за ўсё, яна не ваша жонка.